*Гісторыя аднаго фізіка (стар. 3) Біяграфія прэзідэнта (стар. 3)*
*Над намі будзе лётаць «амерыканец» (стар. 5)*


# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

12 ліпеня 1996 г. № 51 Кошт свабодны


## «Беларускі прыхільнік Гітлера ў Парыжы»

*Артыкул пад такім загалоўкам 10 ліпеня змясціла буйнешая штодзённая газета Францыі Le Monde*

Рэжым Лукашэнкі сілай жорстка падаўляе ўсялякія апазіцыйныя выступленні. Эканамічныя рэформы зведзеныя да нуля. Прадпрыемствы стаяць, камерцыйныя банкі поўнасцю падпарадкаваныя ўладам, а ўрад па-ранейшаму падтрымлівае неэфектыўныя калгасы. Сродкі масавай інфармацыі манапалізаваныя дзяржавай. Лукашэнка адкрыта грэбуе сваёй мовай і публічна прызнаецца ў сімпатыях да Гітлера. Знешняя палітыка Беларусі арыентаваная толькі на Маскву, а прэзідэнт культывуе ў краіне недарэчны ідэалагічны гібрыд з камунізму, настальгіі па СССР і рускага праваслаўнага антызаходняга шавінізму.

Для нас, беларусаў, усё пералічанае — не навіна, а прыкрае штодзённае жыццё. Але чытачоў *Le Monde* многія гэтыя факты, выкладзеныя ў артыкуле Вінцука Вячоркі, могуць сапраўды ўразіць.

11 ліпеня ў *Le Monde* з'явілася наступная публікацыя. Яе аўтар — аглядальнік газеты Жан-Батыст Надэ. Тэма ягонага артыкула — аўтарытарызм Лукашэнкі. Журналіст узгадвае і аналізуе падзеі двух апошніх год.

Дэпутатаў збілі і выкінулі з залы паседжанняў — вінаватых няма. Улады разагналі страйкі і забаранілі незалежныя прафсаюзы. Свабодныя сродкі масавай інфармацыі падвяргаюцца рэпрэсіям. Прэзідэнт паведамляе, што грамадзяне не змогуць без дазволу выязджаць за мяжу. Загінулі мірныя амерыканскія аэранаўты на паветраным шары. І, нарэшце, улады не дазволілі ўстанавіць мемарыяльную дошку на Бярэзіне — у месцы пераправы праз раку арміі Напалеона.

Падобны матэрыял на першай паласе змясціла і *L'Actualité*. Французы будуць ведаць, хто да іх прыехаў.

**М.Н.**

## Государством Управляет Лукашенко Александр Григорьевич

*Уже два года*



## Камуністы і аграрыі завалілі ліберальную канцэпцыю рэформ

**Увесь дзень 10 ліпеня Вярхоўны Савет абмяркоўваў асноўныя накірункі эканамічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь.**

Характэрна, што найбольш масава і палымяна выступалі дэпутаты-камуністы, якія з парламенцкай трыбуны выказалі пра рэформы «ўсё, што яны думаюць». Дарэчы, апошнія месяцы ўсталявалася даволі станоўчая тэндэнцыя, калі пры разглядзе эканамічных пытанняў камуністы паасобку аказваюцца ў неканструктыўнай апазіцыі. Згуртаваная дэпутацкая большасць пераадольвае камуністычныя забабоны, як гэта было, напрыклад, пры прыняцці прыватнай уласнасці на зямлю.

Аднак на гэты раз прадстаўнікі ПКБ не былі ў поўнай ізаляцыі, паколькі ліберальныя метады, якія прапанавала камісія па эканамічнай палітыцы на чале з дэпутатам Шлындзікавым, не выклікалі захаплення і ў аграрыяў. Вось якія прынцыпы эканамічнай палітыкі прапанаваў Шлындзікаў: «Фарміраванне прыватнага сектара, які будзе выпрацоўваць 70% унутранага валавага прадукту ў 2001 годзе; садзеянне развіццю канкурэнцыі, дзяржаўная падтрымка малога бізнесу; адмаўленне (па вопыце Эстоніі) ад дзяржаўнай падтрымкі калгасна-саўгаснай сістэмы, змяншэнне мытных пошлінаў і зніжэнне падатку на дабаўленую вартасць да 10% пры імпарце таннага харчавання.

Натуральна, што такія ліберальныя падыходы не прыйшліся даспадобы не толькі камуністам, але і аграрыям, таму пункт аб адабрэнні прапаноў камісіі нават не ставіўся на галасаванне. Толькі на другі дзень, 11 ліпеня, парламент падтрымаў фармуліроўку, у якой стратэгічнай мэтай Беларусі называецца стварэнне «сацыяльна арыентаванай канкурэнтнай рыначнай эканомікі, якая забяспечвае правы і свабоды чалавека, павышэнне ўзроўню жыцця ўсіх груп насельніцтва». Вярхоўны Савет таксама прагаласаваў за стварэнне часовай камісіі па распрацоўцы праграмы асноўных накірункаў эканамічнай палітыкі і прапанаваў узначаліць яе прэзідэнту А.Лукашэнку. На гэты конт Станіслаў Шушкевіч заўважыў: «Калі камуністы не ведаюць, што рабіць, — яны ствараюць камісіі».

**Алесь ГАНКОВІЧ**

## Селязнёў быў у Мінску з візітам ветлівасці

**Афіцыйны візіт у Мінск дэлегацыі Дзяржаўнай думы Расіі на чале са старшынёй Генадзем Селязнёвым не прынёс ніякіх сенсацый — ён стаў звычайным візітам ветлівасці ў адказ на вясновую паездку беларускіх дэпутатаў у Маскву.**

На сустрэчах з кіраўнікамі Беларусі пераважна абмяркоўваліся праблемы Супольнасці РБ і РФ. Аляксандр Лукашэнка выказаў незадаволеннасць маруднымі тэмпамі ажыццяўлення дэклараваных мэтаў Супольнасці. Згаджаючыся, Г.Селязнёў адзначыў, што інтэграцыйныя працэсы фактычна спыніліся падчас прэзідэнцкай кампаніі ў Расіі, але цяпер, маўляў, яны выйдуць на новы ўзровень пасля абрання на другі тэрмін Барыса Ельцына, які вымушаны будзе выконваць свае перадвыбарныя абяцанні. Тым не менш Г.Селязнёў падкрэсліў, што інтэграцыя Беларусі і Расіі будзе праходзіць толькі ў рамках незалежнасці і суверэнітэту абедзвюх краін.

Выступаючы на сесіі ВС Беларусі, Г.Селёзнёў у чарговы раз адмоўна выказаўся наконт пашырэння *NATO*.

*«Спробы пашырэння NATO на Усход, прыбліжэнне яе інфраструктур да межаў нашай краіны з непазбежнасцю выклічуць эскалацыю напружанасці на кантыненце і ў свеце наогул. Стратэгічнае партнёрства Расіі і Беларусі па стрыманні планаў NATO можа папярэдзіць новы вітокнебяспечнага супрацьстаяння»*, — заявіў Г.Селязнёў. Адразу пасля гэтага ён адзначыў, што Расія будзе спрыяць уступленню Беларусі ў Савет Еўропы. Падобныя заявы можна расцаніць як своеасаблівую здзелку: «ты мне — я табе».

**Раман ЮРЭВІЧ**

## Пазьняк і Навумчык у Злучаных Штатах

**Як мы ўжо паведамлялі, лідары БНФ Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык з Варшавы выехалі ў Вялікабрытанію.**

Пасля трохдзённага знаходжання ў Лондане, дзе адбылася сустрэча з кіраўніком Усходняга дэпартамента Міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі Франсам Рычардсам, Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык прыбылі ў Вашынгтон.

На сустрэчы ў Белым Доме з кіраўнікамі Савета Бяспекі лідэры БНФ уздымалі такія пытанні, як гарантыі незалежнасці Беларусі, парушэнне правоў чалавека рэжымам Лукашэнкі (у прыватнасці, знаходжанне за кратамі Андрэя Рамашэўскага, Славаміра Адамовіча і грамадзянаў Украіны). Аналагічныя тэмы абмяркоўваліся і падчас спатканняў у Дзярждэпартаменце, Кангрэсе і Сенаце. Падчас наведвання пазаўрадавых фондаў гаворка ішла пра дапамогу беларускай дэмакратыі. Зянон Пазьняк выступіў з лекцыяй у Бібліятэцы Кангрэса ЗША на тэму беларуска-расійскіх адносінаў.

У сераду 10 ліпеня ў гонар лідэраў БНФ быў дадзены абед з удзелам Збігнева Бжэзіньскага і прадстаўнікоў палітычных колаў ЗША.

**Б.П.**

## Помнік ахвярам сталінскага генацыду

**10 ліпеня адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій 1929—1938 гадоў у вёсцы Чарнагубава Капыльскага раёна.**

Помнік узведзены на месцы, дзе раней стаяла хата сям'і «ворагаў народа». Ён уяўляе сабой выяву трох дубоў, увянчаных крыжамі і скульптурай Маткі Боскай. На металічнай пласціне напісаны імёны 67-мі рэпрэсаваных чарнагубаўцаў, радкі з верша паэта Сяргея Грахоўскага і надпіс «Сялянам і былой шляхце вёскі Чарнагубава».

Ініцыятыва стварэння помніка належыць ураджэнцу вёскі Чарнагубава, сябру Згуртавання беларускай шляхты Станіславу Лісоўскаму, які на працягу пяці гадоў збіраў архіўныя звесткі не толькі пра сваіх сваякоў, але і пра іншых рэпрэсаваных аднавяскоўцаў.

На адкрыццё помніка прыехалі прадстаўнікі мясцовай улады, якія не дазволілі разгарнуць бел-чырвона-белы сцяг. Не задавальняла іх і слова «шляхта».

Жыхары Чарнагубава, былога шляхецкага засценка, вельмі прыхільна паставіліся да помніка, а ксёндз Гэнрык Акалатовіч (пробашч Нясвіжскага фарнага касцёла) асвяціў яго. Жыхары Чарнагубава маюць намер пабудаваць тут капліцу.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Прэзідэнт прыгразіў зняць прэм'ер-міністра

*Ахвяры нацызму могуць не дачакацца сваіх дойчэмарак*

Прэзідэнт Лукашэнка прыгразіў зняць з пасадаў прэм'ер-міністра Чыгіра, віцэ-прэм'ера Лінга і шэфа «Прыорбанка» Касцючэнку, калі тыя да 12 ліпеня не выканаюць ягонае распараджэнне наконт перадачы сродкаў беларускага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» з «Прыорбанка» ў «Беларусбанк». Каб не страціць свае крэслы, высокапастаўленыя чыноўнікі ўзяліся выконваць загад, нягледзячы на некаторыя слушныя контраргументы.

Як пісала СВАБОДА, нямецкі ўрад выдзеліў 200 мільёнаў дойчэмарак у якасці кампенсацыі ахвярам нацызму. На падставе спісаў беларускага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» маркі паступалі з нямецкага *Commerzbank* на рахунак «Прыорбанка», дзе іх і атрымлівалі ахвяры.

Пасля доўгай закулісныай барацьбы Кабінет міністраў 10 чэрвеня прыняў рашэнне пра перадачу грошай з «Прыорбанка» ў «Беларусбанк», якое, аднак, негатыўна ўспрыняў нямецкі бок.

У пісьме да прэзідэнта Міхаіл Чыгір адзначыў, што «пасольства ФРГ у Беларусі накіравала ноту, у якой звярнула ўвагу на магчымыя фінансавыя страты фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» і запавольванне тэмпаў выплаты дапамогі ў сувязі з пераводам грошай у іншы банк».

25 чэрвеня Кабінет міністраў адмяніў папярэдняе рашэнне, што і выклікала гнеў «бацькі», які 1 ліпеня загадаў перадаць грошы ў «хатні» «Беларусбанк». Увага прэзідэнта Лукашэнкі да марак ахвяраў нацызму выкліканая дэфіцытам валютных сродкаў у казне.

Як паведамілі ў кіраўніцтве «Прыорбанка», цяпер у Франкфурце-на-Майне знаходзяцца прадстаўнікі абодвух банкаў і фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне», якія «ўтрасаюць усе пытанні з нямецкім банкам». Аднак наўрад ці яны паспеюць да 12 ліпеня выканаць усе фармальнасці.

Афіцыйнай рэакцыі з Бона на дзеянні прэзідэнта Лукашэнкі пакуль што не паступіла — застаецца ў сіле негатыўная ацэнка перададзенай раней ноты.

Ахвяры нацызму, якія на працягу двух гадоў атрымалі каля 90 мільёнаў марак, зноў будуць чакаць свае грошы, а некаторыя так і не дачакаюцца. Абяцаны пераразлік кампенсацый адкладваецца на няпэўны тэрмін.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Дэпутацкі імунітэт?

***Большасць парламентарыяў ужо ніяк не рэагуе на скандальныя заявы прэзідэнта. І дарэмна***

9 ліпеня Аляксандр Лукашэнка «адзначыў» другую гадавіну свайго прэзідэнцтва вялікім інтэрв'ю для рэдактараў афіцыйных СМІ. Рэпартаж аб гэтай размове паказала беларускае тэлебачанне, і мільёны тэлегледачоў пачулі абяцанне прэзідэнта, што ён распусціў бы парламент, калі б дэпутаты вырашылі замяніць Сямёна Шарэцкага на пасадзе спікера.

У прынцыпе, размовы аб магчымым разгоне гэтага Вярхоўнага Савета з'явіліся на свет яшчэ да таго, як нарадзіўся сам парламент. Але ўпершыню гэтая тэма ад узроўню чутак і «інсінуацый» выйшла на ўзровень публічнай заявы кіраўніка дзяржавы. Натуральна, у любой іншай краіне падобная заява прэзідэнта выклікала б крызіс улады, але ў нас заканадаўцы, відаць, ужо выпрацавалі пэўны імунітэт да такіх рэчаў.

На маю просьбу пракаментаваць заяву прэзідэнта старшыня Вярхоўнага Савета **Сямён Шарэцкі** спачатку спрабаваў адрэагаваць жартоўна: *«Што ж, вельмі прыемна, што ў мяне з'явілася такая моцная абарона...»* Але потым дадаў ужо больш сур'ёзна: *«Я думаю, мы павінны кіравацца Канстытуцыяй. Паводле Канстытуцыі, прэзідэнт не мае права на роспуск парламента. Рэферэндум па гэтай праблеме не меў абавязковага характару, бо пастаўленае пытанне было кансультатыўным. Вынікі гэтага рэферэндуму не носяць юрыдычнай сілы»*. Дарэчы, як стала вядома СВАБОДЗЕ з дасведчаных крыніц, сёння, у пятніцу 12 ліпеня, Шарэцкі плануе зноў выступіць на сесіі Вярхоўнага Савета з даволі вялікай прамовай. У большасці дэпутатаў стаўленне да чарговай скандальнай заявы Лукашэнкі, скажам так, спакойна-іранічнае. **Аляксей Камай**, (фракцыя камуністаў): *«Я шкадую, што кіраўнік такога рангу абмяркоўвае роспуск іншай галіны ўлады, не маючы на гэта ніякіх паўнамоцтваў»*. На пытанне аб магчымых матывах заявы прэзідэнта Камай зазначыў: *«На маю думку, тут няма ніякіх матываў. Тут ёсць толькі выказванні, якія не нясуць ніякай нагрузкі — адпаведна да іх і трэба ставіцца»*. **Анатоль Красуцкі**, (фракцыя «Згода»): *«Думаю, гэта не афіцыйны пункт гледжання кіраўніка дзяржавы, а проста палітычная рэмарка. Спадзяюся, у прэзідэнта дастаткова цвярозага падыходу, каб не ісці на парушэнне Канстытуцыі. Бывае ў чалавека нейкі ўсплеск эмоцый, нельга лічыць гэтую заяву афіцыйным пунктам гледжання»*.

Усе дэпутаты ў сваіх каментарыях найперш адзначылі той факт, што ў рэальнасці пытанне аб адстаўцы Шарэцкага ў Вярхоўным Савеце ніхто ўсур'ёз не ставіў. Нагадаем, што аб магчымым зборы подпісаў наконт гэтага аб'явіў у свой час дэпутат Уладзімір Нісцюк, але далей заявы справа не пайшла. Цяпер, аднак, прэзідэнт выкарыстоўвае гэты дробны момант з жыцця парламента фактычна для шантажу Вярхоўнага Савета, спрабуючы ўбіць кол паміж Шарэцкім і большасцю дэпутатаў, перацягнуць спікера на свой бок.

*«Я два гады быў Старшынёй Вярхоўнага Савета, і за гэты час каля 10 разоў рабіліся розныя захады, каб уключыць у парадак дня пытанне аб маёй адстаўцы. Гэта звычайная справа,* — гаворыць Мечыслаў Грыб. — *У прынцыпе, пра Шарэцкага ніхто сур'ёзна пытанне і не ставіў, так што не трэба яго і абараняць. Да таго ж не думаю, што ў прэзідэнта са спікерам такія ўжо цёплыя і дружалюбныя адносіны, каб Лукашэнка сапраўды кінуўся ратаваць Шарэцкага»*. Грыб, дарэчы, адзін з тых нямногіх дэпутатаў, якія ставіцца да слоў прэзідэнта даволі сур'ёзна і не выключае, што праекты нейкіх рашэнняў аб роспуску Вярхоўнага Савета ўжо падрыхтаваныя ў прэзідэнцкіх структурах.

**Станіслаў Шушкевіч** зрабіў больш канкрэтныя высновы з заяваў Лукашэнкі: *«Не варта прэзідэнту выяўляць з сябе чалавека, які нібыта падтрымлівае Шарэцкага. На самой справе Лукашэнка неаднаразова зневажаў старшыню Вярхоўнага Савета, а пасля заяўляе нешта ў яго абарону. Такая падтрымка, як наш прэзідэнт, парламенту не патрэбная. Думаю, хутка Вярхоўны Савет канстытуцыйна паставіць пытанне аб імпічменце прэзідэнта, бо нельга мець такога кіраўніка дзяржавы, які пастаянна парушае законы»*.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Люди на улице, а зарплаты все нет

**За последний месяц практически по всей Беларуси прокатилась волна стихийных забастовок.**

Люди требуют зарплату, которую им никто не может и в ближайшие месяцы реально не сможет выплатить. Администрация некоторых предприятий не расплатилась с рабочими даже за апрель, многие задолжали за май, за июнь зарплата выдана лишь на единичных предприятиях.



*Народ загорает в ожидании зарплаты*

В этой связи в последнее время заметно активизировали свою деятельность профсоюзные организации. Совместно с представителями демократов была создана Партия труда для более эффективного лоббирования интересов профсоюзов в парламенте. И это только начало.

Как правило, во всем мире каждая забастовка трудящихся наносит ощутимый вред экономике (простои выливаются в убытки). На данном этапе Беларуси это общее правило не касается — из-за глубокого кризиса такая «мелочь», как простой производства, становится менее заметной. Более того, остановка многих производств в настоящий момент была бы более выгодна экономике — свыше 90% продукции идет на склад, что выливается нам в хорошую копеечку.

Максимум же, что может сделать администрация предприятия — поровну разделить между всеми рабочими небольшие суммы, «выбрасываемые» из бюджета для погашения задолженности. Никакая поправка в закон о придании зарплате статуса первоочередного платежа не решит эту проблему. Денег нет в принципе, поэтому не имеет значения, кто стоит за ними в очереди первым.

Ситуация еще больше обострится к осени, когда «отдохнувшие» в отпусках за свой счет рабочие вернутся на производства и обнаружат, что денег все еще нет. Нельзя исключать и возможность проведения в этот период общереспубликанской забастовки (может быть, и не одной). Исходя из реальной оценки ситуации в экономике, можно спрогнозировать, что ответного шага (по крайней мере — цивилизованного) со стороны властей не последует (бюджет пуст, и никакая «жесткая экономия» его уже не спасет — раньше нужно было экономить).

Можно лишь догадываться о том, на какие меры пойдет в прямом смысле слова голодный народ уже в ближайшем будущем. И в любом случае будет прав — если власть не решается признать свое поражение и не пытается изменить свою политику, ей надо помочь.

**Наталья УЛЕВСКАЯ**

# Чеки под вопросом

Как уже сообщала СВАБОДА, Верховный Совет принял решение продлить сроки начисления приватизационных чеков до конца текущего года, а их выдачу — до 1 июля 1997 года. Однако выясняется, что принятие решения парламентом отнюдь не означает его исполнение. И тем, кто не обратился с заявлением на начисление чеков, вряд ли стоит надеяться на это.

Оказывается, комиссии по начислению квот гражданам были, согласно президентскому распоряжению, распущены еще 30 апреля. Для их восстановления потребуются средства, которые вряд ли можно найти в условиях нашего пустого бюджета.

Таким образом, пока вопрос о продолжении начисления чеков остается нерешенным. Сроки продлевались согласно президентским распоряжениям уже 2 раза. По последним данным, ваучеры были начислены примерно 74% населения, получили же чеки — около 51%. Причем, похоже, часть из числа оставшихся без ваучеров совсем не прочь их получить — свидетельство тому очереди в Минске в последние дни июня перед завершением сроков начисления.

Мингосимущество, учитывая сложившуюся ситуацию, по сообщению «Белорусского рынка», подготовило проект распоряжения президента о продлении сроков выдачи чеков на месяц. Ожидается, что оно может быть подписано в ближайшее время. Но будет ли?

**Алесь САДОВСКИЙ**

# «Пагоню» высяляюць з памяшкання

**Над рэдакцыяй незалежнай газеты «Пагоня», якая выходзіць у Гродне, навісла пагроза высялення.**

«Пагоня» атрымала пісьмовае папярэджанне ад мясцовых уладаў з прапановай вызваліць памяшканне. Рэдакцыю хочуць выселіць, нягледзячы на тое, што дамова на арэнду памяшкання дзейнічае да канца года. Галоўны рэдактар газеты Мікола Маркевіч схільны лічыць гэтую акцыю палітычнай.

Хутчэй за ўсё так яно і ёсць. Ускосна гэта пацвердзіла абласная «вертыкаль», якая нядаўна выдала дакумент, вельмі падобны на замяталінскія тэксты. Цытуем (на мове арыгінала):

*«Гродненский облисполком, проанализировав публикации газеты «Пагоня», считает, что газета систематически печатает материалы, оскорбляющие честь и достоинство руководителей государства, подвергает необоснованной критике любые инициативы, направленные на интеграцию с Россией и другими странами СНГ, ставит под сомнение волеизъявление народа во время референдума. Все это подается как национальная трагедия, потеря государственности и суверенитета, внося тем самым раскол в общество... У редакции прослеживается конкретная цель — извратить сущность интеграционных процессов в Беларуси и России, поссорить братские белорусский и русский народы, посеять между ними вражду и рознь...»*

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

***ФАКТ ЕСТЬ ФАКТ***

# Газеты идут в макулатуру

**«Белорусская деловая газета» опубликовала любопытные сведения о ситуации на газетном рынке. В частности, приводятся данные о реализации газет в розницу. Из публикуемой ниже таблицы видно, что довольно большое количество печатной продукции не раскупается и идет в макулатуру.**

**Тиражи газет в Беларуси в розницу (май 1996 года)**

| код | Название газеты | Фактическое количество реализованных экз. | Возврат, % |
|---|---|---|---|
| 1 | Белорусская нива | 23392 | 46,84 |
| 2 | Вечерний Минск | 231323 | 7,09 |
| 3 | Звязда | 57561 | 25,07 |
| 4 | Знамя юности | 67374 | 23,79 |
| 5 | Народная газета | 163904 | 5,89 |
| 6 | Рэспубліка | 147849 | 12,48 |
| 7 | Советская Белоруссия | 183112 | 12,90 |
| 8 | Чырвоная змена | 15804 | 62,66 |
| 9 | Народная воля | 89904 | 8,03 |
| 10 | 7 дней | 182192 | 9,00 |
| 11 | Имя | 64190 | 3,81 |
| 12 | Свободные новости плюс | 246615 | 10,04 |
| 13 | Свобода | 103035 | 3,76 |
| 14 | АиФ | 94093 | 3,00 |
| 15 | Мінская праўда | 6056 | 49,95 |
| 16 | Белорусский рынок | 15895 | 40,09 |
| 17 | Белорусский предприниматель | 3906 | 59,94 |
| 18 | Белорусская газета | 9371 | 39,07 |
| 19 | Белорусская деловая газета | 96814 | 13,25 |
| 20 | Коммерсант Беларуси | 4226 | 56,21 |
| 21 | Прессбол | 110677 | 27,55 |
| 22 | Туризм и отдых | 6121 | 52,07 |
| 23 | Из рук в руки | 84063 | 14,90 |

# У законе аб друку – новы артыкул

10 ліпеня парламент прыняў некалькі даволі істотных паправак у закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».

У ранейшай рэдакцыі закона журналіст мог быць пазбаўлены акрэдытацыі пры нейкім органе, калі ён распаўсюдзіў звесткі, «якія ганьбяць гонар і годнасць» гэтай арганізацыі. Цяпер, пасля ўнесеных зменаў, факт такой «ганьбы» павінен быць пацверджаны судом — толькі пасля рашэння суда прадстаўнік прэсы можа быць пазбаўлены акрэдытацыі.

Дарэчы, падчас дыскусіі Генадзь Карпенка, відавочна, з пэўнай доляй іроніі, запытаўся ў Аляксандра Дабравольскага (які прадстаўляў законапраект), ці можа быць зняважаны гонар нейкай юрыдычнай асобы, арганізацыі. Аказваецца, можа. Такое прадугледжана адпаведным артыкулам крымінальнага кодэксу.

Дэпутаты таксама ўнеслі ў закон новы, 51-ы артыкул: *«Распаўсюджванне паведамленняў і матэрыялаў, падрыхтаваных з выкарыстаннем скрытага аўдыа-відэазапісу, кіна- і фотаздымкаў не дапускаецца, акрамя выпадкаў, прадугледжаных законам»*. На думку камісіі, такія дзеянні парушаюць права грамадзян на асабістае жыццё.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

# Гісторыя аднага фізіка

***Яшчэ нядаўна камуністычныя пікеты і мітынгі ў Гродне не абыходзіліся без патрабаванняў: «Мілінкевіч — у адстаўку»***

З 1990 да пачатку 1996 года Аляксандр Мілінкевіч працаваў намеснікам старшыні Гродзенскага гарвыканкама. Віцэ-мэр прыклаў нямала намаганняў, каб 75% гарадскіх школ былі беларускімі. Цэлы дзесятак вуліц — Энгельса, К.Цэткін і інш. — у старой частцы горада атрымалі свае гістарычныя назвы: вул.князя Давіда Гарадзенскага, караля Стэфана Баторыя, вул.Дамініканская, пл.Тызенгаўза — каралеўскага старасты, гродзенскага рэфарматара канца XVIII стагоддзя.

Гродзенскія ўлады афіцыйна адзначалі ўгодкі Грунвальдскай бітвы, паўстанняў Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага — гэта значыць, тыя даты нашай гісторыі, якія нідзе больш на Беларусі не святкаваліся на афіцыйным узроўні. У немалой ступені гэта рабілася дзякуючы сп.Мілінкевічу, які выразна разумее патрэбу мацаваць беларускі дух, абуджаць нацыянальную самасвядомасць. Такія людзі цяперашняму рэжыму не патрэбныя, таму і не ўпісаўся ён у прэзідэнцкую вертыкаль, звольніўся з працы.


*Аляксандр Мілінкевіч*

Сёння 49-гадовы Мілінкевіч зноў працуе са студэнтамі. Ён — дацэнт Гродзенскага універсітэта, кандыдат фізіка-матэматычных навук.

Фізіка была некалі моднай і папулярнай навукай. У 70-я гг. А.Мілінкевіч сем гадоў працаваў у Інстытуце фізікі Акадэміі навук у Мінску. Першы чалавек, які моцна паўплываў на ягонае жыццё — калега па працы Юры Хадыка.

Абараніўшы дысертацыю, А.Мілінкевіч вярнуўся ў Гродна. Затым была праца ў Алжыры, дзе ён выкладаў фізіку і загадваў кафедрай ва універсітэце.

Пасля чатырох гадоў замежжа фізік Мілінкевіч пачаў грунтоўна цікавіцца беларускай гісторыяй. У гэты час на яго вялікі ўплыў зрабілі У.Кіслы, вядомы ў Гродне мастак-рэстаўратар, і М.Ткачоў, даследчык замкаў, абарончых храмаў, зброі і ўвогуле нашай вайсковай гісторыі, які, на жаль, ужо памёр.

А.Мілінкевіч успамінае: «Ткачоў быў значнай постаццю. Каб ён застаўся, напэўна, шмат што было б сёння іншым. Яго крытыкавалі нібы за канфармізм, згодніцтва, але ён разумеў, што аднабаковая палітыка не мае перспектывы. Я лічу, што разам з ім сёння і Грамада была б іншай. Як ён сам расказваў, БСДГ стварылі з мэтаю заняць сацыял-дэмакратычную нішу, каб яе не заняла частка камуністаў».

У выбарах 1990 г. М.Ткачоў і А.Мілінкевіч удзельнічалі разам, першы балатаваўся ў ВС СССР, другі — у беларускі парламент. Абодвум перашкаджалі. А.Мілінкевічу не хапіла тады 0,2% для перамогі.

Адразу пасля выбараў яго запрасіў працаваць сваім намеснікам толькі што абраны старшынёю Гродзенскага гарвыканкама Сямён Домаш (цяпер — член прэзідыума ВС Беларусі). Домашу гаварылі: «Каго ты бярэш? Ён жа —бэнэфавец». Хаця Мілінкевіч да БНФ ніколі не належаў.

Домаш сабраў тады добрую каманду, «гродзенскі ўрад», як яны часам называлі самі сябе. Па словах А.Мілінкевіча, незалежніцкая свядомасць Домаша, якому яшчэ не было сарака гадоў, расла вельмі хутка, бо «у яго было галоўнае — гонар за сваё». Тады ім удавалася праводзіць у горадзе палітыку, незалежную ад абласных уладаў. «Сёння ж, — гаворыць А.Мілінкевіч, — усе чыноўнікі баяцца, клапоцяцца толькі пра тое, што падумаюць аб іх дзеяннях наверсе».

У той час удалося 75% школ горада зрабіць беларускімі (сёння іх засталося ўсяго 4—5). «Цяжка сказаць, колькі будзе працягвацца цяперашняя палітыка, але пакаленне, якое вучылася ў гэтых школах, мае беларускі дух і гэтага ў яго ўжо не выкараніць», — лічыць Мілінкевіч. Карацей, трэба перачакаць. А бел-чырвона-белы сцяг, які лунаў над гарвыканкамам, пакуль здадзены на захаванне ў музей. Бо «нават сцягі акупантаў захоўваюцца ў якасці экспанатаў». А свой дзяржаўны тым больш будзе захаваны, каб зноў вярнуцца на сваё месца, у чым былы віцэ-мэр не сумняваецца ні на хвіліну.

Сталае захапленне А.Мілінкевіча ў галіне гісторыі — гродзенскі фарны касцёл, самы вялікі на Беларусі. Спачатку ён даследаваў драўляныя скульптуры апосталаў, наладзіўшы сувязь з архівам Ватыкана. Потым заняўся гадзіннікам на касцельнай званіцы. Ключы ад касцёла яму заўсёды давярала старая жанчына — Марыя Гратулевіч, якая даглядала храм. Разам з сынам Аляксандрам яны адчысцілі гадзіннік. А затым з дапамогаю двух майстроў улетку 1987 г. яго ўдалося запусціць. Аднак стары механізм вымагаў рэстаўрацыі, чым сёння займаюцца пецярбургскія гадзіннікавыя майстры.

У часе архіўных пошукаў Мілінкевічу давялося «састарыць» наш гадзіннік. Паводле энцыклапедый лічылася, што ён зроблены ў канцы XVII стагоддзя. Аднак разам з атрыманнем поўнага Магдэбургскага права ў 1496 г. гродзенцам дазвалялася пабудаваць ратушу з гадзіннікам. Наш вежавы гадзіннік па канструкцыі якраз адпавядае таму часу, г.зн. яму ўжо 500 гадоў. Самае дзіўнае, што ён захаваўся амаль без зменаў. А.Мілінкевіч ездзіў за мяжу, каб агледзець тагачасныя вежавыя гадзіннікі ў Празе і Лондане, механізмы якіх амаль цалкам зроблены з новых дэталяў.

Як жа ратушны гадзіннік трапіў з ратушы на фарны касцёл? У сярэдзіне XVII ст. расійскі цар знішчыў палову беларускага насельніцтва і спаліў мноства гарадоў, у тым ліку і Гродна. Згарэла і ратуша, якую здолелі адбудаваць толькі праз сто гадоў. Гадзіннік жа, які быў вельмі дарагой рэччу, адрамантавалі і памясцілі на драўлянай вежы ў езуіцкім калегіуме. У 1725 г. яго перанеслі на званіцу езуіцкага касцёла, дзе ён захаваўся да нашых дзён. Гэта, па сведчанні А.Мілінкевіча, самы стары ва Ўсходняй Еўропе вежавы гадзіннік.

Апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст, які падпісаў прысуд сваёй дзяржаве, памёр на чужыне ў Санкт-Пецярбургу. У 1938 г. ягоную труну савецкія ўлады перадалі Польшчы. Яе перавезлі ў в.Воўчын (Брэсцкая вобласць), дзе некалі быў радавы маёнтак Панятоўскіх, і памясцілі ў касцёле. У 1946 г. каралеўскае пахаванне было разрабавана і знішчана завучам мясцовай школы і яе мужам-начальнікам пагранкамендатуры, якія, па расказах мясцовых жыхароў, пазней з'ехалі да сябе на радзіму ў г.Арэхава-Зуева...

Аляксандр Мілінкевіч, ведаючы аб каралеўскай гісторыі, аднойчы ўзяў дазвол на паездку ў пагранзону і адправіўся ў Воўчын, які знаходзіцца каля польскай мяжы. Праз некаторы час ён выбраўся туды ўжо з прафесійным археолагам М.Ткачовым, рэстаўратарам У.Кіслым (і сваім сынам Аляксандрам, які таксама вельмі цікавіўся гісторыяй). У выніку той паездкі былі знойдзеныя рэшткі каралеўскага пахавання, якія пазней былі перададзены польскім уладам. Палякі ўрачыста перазахавалі іх у Варшаве, а ўдзельнікаў экспедыцыі ўзнагародзілі медалём «За заслугі перад польскай культурай».

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Чалавек, якога зрабілі бамжом

**Ёсць у Магілёве такі чалавек — Васіль Парфёнавіч Батура. Яму 62 гады, ён інвалід І групы, паралізаваны.**

Праўда, вось ужо больш за 2 гады жыве ён не ў абласным цэнтры, а ў Дашкаўскай сельскай бальніцы. 10 гадоў таму ў яго адабралі кааператыўную кватэру. Тады якраз была кампанія змагання з «непрацоўнымі даходамі», а В.Батура паспрабаваў здаць сваю кватэру ў наём. У выніку — прыехала міліцыя і выкінула на двор увесь хатні скарб, зрабіўшы з чалавека бамжа.

Следства пасля высветліла, што дакументы на канфіскацыю кватэры былі сфальсіфікаваныя, што ніякага сходу кааператыва на самой справе не было, што і ў гарвыканкаме гэтая справа як след не разглядалася... Але сёння ўжо не даведаешся, як яно было, хто, каму і колькі даў хабару.

Куды толькі не звярталася сям'я Батуры ў пошуках справядлівасці. За гэтыя 10 год скончыўся застой, прайшла перабудова, знік СССР, разам з ім страціў сілу і савецкі закон аб барацьбе з непрацоўнымі даходамі, прыйшоў «рынкавы сацыялізм»... А праўды так і не знайшлі. Усюды згаджаюцца: праўда на баку Батуры, дакументы былі сфальсіфікаваныя, і на гэтым усё. Апошнюю надзею страцілі, калі звярнуліся ў мясцовую «вертыкаль». Там, канечне, паспачувалі простаму чалавеку і... даручылі аддзелу сацыяльнай абароны «дапамагчы хвораму неабходнымі лекамі і харчаваннем».

Так што Васіль Батура і далей ляжыць у бальніцы, якая цяпер для яго — як другі дом. І, магчыма, апошні.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



**КАДРЫ**

# Заўсёды побач

*На здымку: асабісты доктар прэзідэнта Ірына Абельская*



**БІЯГРАФІЯ**

**Роўна два гады краінай кіруе прэзідэнт Лукашэнка, а шырокія народныя масы дагэтуль амаль нічога не ведаюць пра жыццёвы шлях любімага кіраўніка дзяржавы. Ідучы насустрач шматлікім просьбам чытачоў, СВАБОДА друкуе сёння біяграфію прэзідэнта.**



## Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч

Нарадзіўся 30 жніўня 1954 г. у п.Копысь Аршанскага раёна Віцебскай вобласці.

Паводле пашпарту — беларус.

Адукацыя — вышэйшая. У 1975 г. скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут, у 1985 г. — Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (завочна).

Спецыяльнасць па адукацыі — настаўнік гісторыі і грамадазнаўства; эканаміст-арганізатар сельскагаспадарчай вытворчасці.

Працоўны шлях:

09.71—06.75 — студэнт Магілёўскага пединстытута.

08.75—11.75 — сакратар камітэта камсамола СШ № 1 г.Шклова.

11.75—01.77 — інструктар паліталдзела Заходняй пагранічнай акругі, г.Брэст, в/ч 2187.

01.77—11.77 — сакратар камітэта камсамола гархарчгандлю, г.Магілёў.

11.77—05.78 — інструктар Кастрычніцкага райвыканкама г.Магілёва.

05.78—08.80 — адказны сакратар раённай арганізацыі таварыства «Веды», г.Шклоў.

08.80—08.82 — намеснік камандзіра роты па палітчастцы, в/ч 04104.

08.82—06.83 — намеснік старшыні калгаса «Ударнік» Шклоўскага раёна.

06.83—03.85 — намеснік дырэктара камбіната будматэрыялаў, г.Шклоў.

03.85—01.87 — сакратар парткама калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна.

02.87—07.94 — дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна.

07.94 — ... — прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

Сяргей ДУБАВЕЦ



*Пра нашую «нацыянальную рэлігію»*

# Калектыўная безадказнасць

Народ заўсёды чакае лепшага жыцця. Вось аднойчы настане дзень, той славуты чацвер пасля дожджычка, альбо рак на гары свісне, альбо «по щучьему велению» скранецца раптам печка-развалюха, на якой ляжыць Ямеля-народ, і паедзе ён з занядбанае хаты проста ў царскія харомы.

Лепшае жыццё можа настаць толькі цудоўным чынам.

Народ заслужыў лепшага жыцця ўжо тым, што ніколі яго не меў. Таму і раздражняецца народ не столькі ад таго, што яму замінаюць жыць, колькі ад таго, што пасягаюць на ягоную мару жыць лепей. Мы будзем да смерці сядзець у сваім балоце, толькі не адбірайце ў нас нашу мару, нашу веру, наш комплекс калектыўнае безадказнасці.

Культ лепшага жыцця складаецца з некалькіх падстававых прынцыпаў: каб было ціха (каб не было вайны), каб захаваць калектывы (пры тым, што завод стаіць, а ўся прадукцыя — на складах), каб дзяржава дала кватэру. Дзяржава (або прэзідэнт) у гэтых народных уяўленнях выступае не больш канкрэтна за дожджычак, рака на гары або шчупака. Гэта штосьці неантрапаморфнае і містычнае, «по велению» якога павінны збывацца нашыя «хаценні». Што да часовых цяжкасцяў і праблемаў, то яны ж часовыя. Ды і не такое цярпелі...

Але час мінае. Рак не свішча. І нараджаецца яшчэ адна міфалагема: прэзідэнту замінаюць працаваць. Гэта новая рэдакцыя старога ўяўлення пра добрага цара. Цар, маўляў, не ведае, што мы хочам жыць лепей, бо фядуты яму не далажылі. А то б ён...

Словам, колькі ні спрачаюцца міжсобку царква і касцёл за душы беларусаў, а сапраўдная наша нацыянальная рэлігія — гэта калектыўная безадказнасць. Калі ты выпаў з яе ў поле індывідуальнае адказнасці — ты ерэтык, бо, па-першае, шуміш на адміністрацыю, якая замінае табе жыць, па-другое, разvalьваеш калектыў, бо прыдумаў нейкую сваю справу, а па-трэцяе, на зароблены грошы купіў сабе кватэру сам. Гэтак ты абудзіў у астатніх, якія чакаюць, чорную зайздрасць — і табе няма месца сярод іх. Бо сіла калектыву — у безадказнасці. Хто пасмее абвінаваціць у безадказнасці калектыў?!

Калі людзі кажуць, што пры Сталіне і пры Брэжневе жылося лепей, яны маюць рацыю. Але лепей было па-свойму. Сэнс гэтага «лепей» не ўніверсальны. ТАК «лепей» магло быць толькі так і толькі тады. І яго, гэтае «лепей», нельга перацягнуць у наш час гэтаксама, як не падымеш Сталіна і Брэжнева, як не вернеш КПСС. Спробы сённяшняга рэжыму і ягоных СМІ стварыць савецкую дэкарацыю на беларускай тэрыторыі дасягаюць мэты — ствараецца дэкарацыя. Але яшчэ нікому ад гэтага не стала жыць лепей, нават па-савецку лепей не стала. Колькі б мы ні любілі сваю савецкую маладосць (зусім натуральнае пачуццё), але дастаткова з'ездзіць у родную вёску, каб пераканацца, што гэтая любоў не ўзаемная, яна — як любоў да памерлых сваякоў. Лепшае жыццё пры сацыялізме — гэта толькі настальгія ў душы, яе нельга паўтарыць у рэальнасці, як нельга зноў смактаць матчыны грудзі або зноў гуляць у двары ў цюху...

Лепшае жыццё — папулістычны замяняльнік рэлігіі, які ў свой час удала выкарысталі камуністы. Паўтарыўшы ўсе царкоўныя інстытуты і ўсю царкоўную літаратуру на свой лад, яны дапусцілі адну памылку — замест Бога сталі казаць не пра лепшае жыццё, а пра камунізм. Гэта быў перабор. Бо Ямелю на печы не трэба болей, чым ён умее захацець. А камунізм — гэта нават не царскія харомы з золатам і брыльянтамі, а нешта зусім ужо нерэальнае. Як кажуць у Расіі, «ври, ври да не завирайся».

Па сутнасці, народу трэба зусім няшмат хлусні, у якую ён мог бы паверыць. Казка павінна выглядаць больш-менш праўдападобна. Ну, хто ж не марыў знайсці на вуліцы тысяч дзесяць доляраў, хто не прыкідваў, якія даўгі з гэтага раздасць і што закупіць... Вось, бадай, і ўсё, што трэба. Пакуль А.Лукашэнка не абяцае большага — ён будзе кіраваць.

Народ ніколі не хоча **быць лепшым**. Бо хто пасмее ацэньваць народ?! Народ хоча **проста** лепшага жыцця. І ўсё. Пры гэтым недзе ў сэрцы сваім народ разумее, што ніякага бога, прабачце, лепшага жыцця — няма. Што зарабіў — тое і маеш. Звыш гэтага можа даць толькі шчупак, прабачце, прэзідэнт, якому нейкія цёмныя сілы вось ужо два гады ніяк не даюць «повелеть» тое, што мы «хотим».



**С.ШАВЕЛЬ**, *доктор социологических наук*

# «Сон разума» или поиск третьего пути?

*Общественное мнение о суверенитете и интеграции*

**Национальный опрос населения Беларуси (1.535 человек, ошибка выборки 3 %), проведенный в мае-июне 1996 г. Независимым институтом социально-экономических и политических исследований в рамках проекта «Формирование общественных лидеров в посткоммунистической Беларуси», подтвердил расслоение белорусского общества по одному из центральных вопросов — о суверенитете и интеграции.**

***Отношение населения к независимости Беларуси и объединению с Россией в одно государство*** *(в %)*

| | Да | Нет | Не ответили |
|---|---|---|---|
| 1. Хотите ли вы, чтобы Беларусь была независимым государством? | 64,6 | 34,4 | 1,0 |
| 2. Хотите ли вы, чтобы Беларусь и Россия объединились в одно государство? | 62,5 | 32,0 | 5,5 |

Нетрудно заметить, что возможных сочетаний ответов на оба вопроса четыре: «да-да», «да-нет», «нет-да», «нет-нет». Сочетание «нет-нет» (против независимости и против объединения) пусто в содержательном смысле, хотя, возможно, подобный негативизм и не случаен.

Логически непротиворечивыми являются позиции тех респондентов, кто дал противоположные ответы по первому и второму вопросу.

Они образуют две группы: а) принципиальных сторонников независимости Беларуси (те, кто по первому вопросу высказался утвердительно, а по второму отрицательно); б) столь же убежденных сторонников объединения Беларуси с Россией в одно государство (первый вопрос «нет», второй — «да»). Эти группы примерно равны по численности и включают около 25% населения каждая. Характерно, что основные различия между этими группами проходят не по линии национально-этнических особенностей, а по линии партийно-политических ориентаций и связанных с ними предпочтений в сфере экономических преобразований, демократизации, гласности и др.

Но есть и третья группа — это те, кто на оба вопроса ответил утвердительно, поддерживая одновременно и суверенитет Беларуси, и объединение с Россией в одно государство. Такая позиция представляется логически противоречивой и в этом — формально-логическом — смысле парадоксальной.

Прежде всего возникает предположение о том явлении, которое психологи называют когнитивным диссонансом, т.е. рассогласованием знаний. Суть его в чувстве дискомфорта, состоянии неопределенности, переживаемых человеком, если в его сознании сталкиваются логически противоречивые знания и соответствующие им устремления. Есть много способов преодоления когнитивного диссонанса на индивидуальном уровне. Один из них — это обращение к такому третьему варианту (знанию), который сглаживает, примиряет противоположности первых двух. Когнитивный диссонанс — распространенное явление в переходном обществе. Он окрашивает массовое сознание в пессимистичные тона, делает его неустойчивым, импульсивным, что особенно заметно на выборах.

Но в данном случае, т.е. применительно к третьей группе, оно проявляется не больше, чем в двух первых группах. Иначе говоря, положительные ответы на оба заданных вопроса следует классифицировать не как отражение рассогласованности когнитивной системы индивидов, а как утверждение собственной позиции.

В чем суть такой позиции, почему она на первый взгляд кажется парадоксальной или даже сугубо эмоциональной, кто ее носители и сторонники? Для ответа на эти вопросы обратимся к недалекому прошлому.

В 1990 г., 27 июля, Верховный Совет Беларуси, вслед за другими республиками бывшего СССР, принял Декларацию о государственном суверенитете. В то время это было скорее заявление о намерениях, чем реальное политическое действие. В общественном сознании белорусского народа проблема политической независимости республики, ее самостоятельного развития не имела однозначного и тем более доминирующего значения. Но вместе с тем стремление к изменению существующего устройства общества в плане его улучшения проявлялось все настойчивее. В декабре 1990 г., за полгода до известного референдума о судьбе Союза ССР, Институтом социологии Академии наук был проведен опрос населения Беларуси. На вопрос **«За какое будущее СССР вы выступаете?»** получены следующие ответы. *За сохранение такого государства, какое было, высказалось 15% опрошенных, за обновленную федерацию союзных республик – 37%. Остальные почти 48% проголосовали за конфедерацию, полную самостоятельность республик, объединенных новым союзным договором.*

В мае 1991 г. был организован горбачевский референдум, вопрос которого был сформулирован крайне некорректно с социологической точки зрения (одно из требований методики — не допускать двусмысленных или непонятных терминов, как, например, «обновленный Союз»). Так и случилось, что среди тех, кто положительно ответил на вопрос референдума, одни имели в виду *унитарное* государство, другие — *новую федерацию*, третьи — *конфедерацию*. Позиции совершенно разные, но их не удалось выявить из-за неправильной постановки вопроса. Руководство Союза оказалось дезориентированным результатами референдума, посыпались насмешки над «парадом суверенитетов», как якобы не поддерживаемых народами республик. На самом деле увидели лишь то, что хотели увидеть. Как можно было «не заметить», что на республиканских референдумах (там, где они проводились) подавляющее большинство населения высказалось за суверенитет своих республик. Возник тот же парадокс, который мы отмечаем и в современном белорусском обществе.

На самом деле, никакого парадокса не было, как нет его и сегодня. На мой взгляд, все объясняется тем, что многие рядовые граждане (отчасти осознанно, отчасти интуитивно) поддерживают идею конфедерации. Они исходят из того, что конфедерация позволяет иметь одновременно и суверенитет, и союзное государство. Таким образом, третью из выделенных по результатам опроса групп можно назвать стихийными конфедератами.

Возможна ли сегодня конфедерация в рамках СНГ или между Беларусью и Россией? Теоретически — да. На практике же для ее реализации необходимы уже состоявшиеся субъекты — действительно независимые во всех отношениях государства. Сложности на пути интеграционных процессов в рамках СНГ как раз и возникают в силу неполной самодостаточности новых государств прежде всего в экономической области. Не случайно и население Беларуси, как видно из данных следующей таблицы, поддерживает прежде всего те формы интеграции, которые обеспечивают создание общего рынка, условия экономического роста.

Интеграцию в области властных структур поддерживает лишь пятая часть населения. Учитывая это, можно понять, почему частью общества неоднозначно оценивается Договор о Содружестве Беларуси и России. Все, что относится к интеграции как движению к общему рынку, — свободное перемещение товаров, услуг, капиталов, рабочей силы, таможенное пространство, безвизовый режим, признание трудового стажа, возможность получения образования и другое — не вызывает возражений ни у политических партий, ни у населения. Но отдельные статьи, относящиеся к (цитата) *«общим принципам военного строительства, использованию военной инфраструктуры», «политической интеграции», «состоянию общих балансов»*, воспринимаются как забегание вперед, причем не только сторонниками независимости, но и многими конфедератами. Таким образом, представляем данные, отражающие степень поддержки населением различных форм интеграции Беларуси и России.

Распределение ответов на вопрос *(в %)*: ***«Сейчас в нашем обществе обсуждаются различные планы интеграции Беларуси и России. Какие, на ваш взгляд, формы должна принять эта интеграция?»***

| | |
|---|---|
| 1. Отсутствие границ между двумя странами | 64,4 |
| 2. Общая валюта | 63,4 |
| 3. Одинаковая тарифная сетка | 54,0 |
| 4. Общая внешняя граница, охраняемая совместно | 43,4 |
| 5. Одинаковые законы | 41,8 |
| 6. Общая армия | 27,3 |
| 7. Общий президент | 20,5 |
| 8. Общее правительство | 20,4 |
| 9. Общий Верховный Совет (парламент) | 19,7 |

В нынешних условиях конфедеративное объединение нереально, более того — оно могло бы подорвать те ростки суверенитета, которые появились в последние годы. Поэтому стихийный конфедератизм — это все-таки (при всей его «памяркоўнасці») — не третий путь, а инерция тех стереотипов сознания, которые сложились и были оправданы в период унитаризма. Интеграция, в тех или иных формах, может быть взаимовыгодной и успешной только тогда, когда она добровольна, поддерживается населением и не посягает на суверенитет ее участников.

